# Тыднёвік Магілёўскі



№ 17 (132) 26 кастрычніка – 1 лістапада 2001 г. Кошт 80 руб.


## Нават суд у нас – не гарантыя праўды





Фота IREX і Д.НОВІКАВА

*Пазаўчора ў памяшканьні Вярхоўнага суду распачаўся працэс над абвінавачанымі ў шэрагу забойстваў, рабаўніцтвах і выкраданьні людзей, у тым ліку апэратара ОРТ Зьміце Завадзкага.*

*Разам з былым спэцназаўцам Ігнатовічам на лаве падсудных таксама былыя вайскоўцы Малік, Гуз і Савушкін. Паводле сьледчых пракуратуры, гэтыя чацьвёра ўтварылі банду, якая некалькіх чалавек забіла, нарабавала маёмасьці на дзясяткі мільёнаў рублёў ды выкрадала людзей. Сьледчыя перакананыя, што менавіта гэтая чацьвёрка 7-га ліпеня 2000 году скрала апэратара ОРТ Зьміцера Завадзкага – каб адпомсьціць яму за тое, што ён паведаміў беларускім журналістам пра добраахвотны ўдзел Ігнатовіча ў чачэнскіх падзеях супраць расейскіх салдатаў.*

*Чаму менавіта Завадзкаму вырашыў помсьціць Ігнатовіч, калі пра ягоную чачэнскую эпапэю з сваіх крыніцаў паведамлялі тут і у Расеі розныя мэдыі? Куды падзеўся выкрадзены журналіст? Якое дачыненьне Ігнатовіч і ягоныя хаўрусьнікі маюць да іншых зьнікненьняў вядомых людзей у Беларусі?..*

*Сьвятлана Завадзкая не спадзяецца пачуць праўду пра свайго мужа на гэтым працэсе. "Столькі часу прайшло, а вінаватыя на сьледзтве так і не сказалі, дзе мой Дзіма. Таму мяркую, што гэты суд проста паказальны – каб зрабіць выгляд, што пра аднаго са скрадзеных адрапартавалі".*

*Калега Завадзкага па ОРТ Павал Шарамет не выключае, што працэс завершыцца даволі хутка і абвінавачаныя атрымаюць найвышэйшую меру пакараньня. "Такі прысуд патрэбны ўладам Беларусі, каб хутчэй пра гэтую гісторыю з выкраданьнем журналіста ўсе забыліся", – мяркуе ён.*

*Вярхоўны суд праігнараваў просьбы аб допушчэньні на паседжаньні журналістаў ОРТ і прадстаўнікоў Беларускай асацыяцыі журналістаў. Першае паседжаньне прайшло пры зачыненых дзьвярах і скончылася вельмі хутка, бо галоўнаму падсуднаму Ігнатовічу пры чытаньні абвінаваўчага заключэньня сталася дрэнна (сваё здароўе ён моцна падарваў галадоўкамі ў часе сьледства).*

**Паводле "Свабоды"**

## Ня бачна пакуль прасьвету

...Жонцы В.Ганчара Зінаідзе сьледчы пракуратуры сп.Новікаў паведаміў, што зараз ідуць допыты супрацоўнікаў СОБРа – той арганізацыі, сябры якой, паводле інфармацыі Жарнасека й Угляніцы (пра іх – у мінулым нумары "ТМ") маюць дачыненьне да зьнікненьня і, магчыма, забойства Захаранкі, Ганчара і Красоўскага. Аднак невядома, якіх менавіта СОБРаўцаў допытваюць: тых, чые прозьвішчы назвалі незалежныя расьсьледвальнікі, ці якіх іншых.

Мінулым тыднем у "палаце" абмяркоўвалі ідэю стварэньня камісіі па справах зьніклых. Алег Алкаеў, былы начальнік менскага ізалятара №1, які цяпер знаходзіцца ў Нямеччыне, даслаў сваё меркаваньне на гэтую тэму. Ён лічыць, што трэба дэпутатам "палаты" паставіць пытаньне пра імпічмэнт Лукашэнку – толькі тады яны стануць абаронцамі зьніклых людзей.

Тым часам грамадзкія слуханьні ў справе палітычна матываваных зьнікненьняў людзей у Беларусі адбыліся ў расейскай Дзяржаўнай думе. Сродкам масавай інфармацыі пра іх мала што вядома. Але сам па сабе гэты факт можа прымусіць хоць неяк "варушыцца" і беларускую ўладу.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

АД СВАЙГО ІМЯ

## Мараль і шчырасьць перамогуць

***...Усё яшчэ, праз паўтары месяцы пасьля выбараў, сустракаю людзей, што ніяк не адыйдуць ад шоку, які адчулі падчас абвешчаньня вынікаў народнага волевыяўленьня 9 верасьня. Мала хто верыць у афіцыйна агучаныя ЦВК, пераможныя для рэжыму лічбы.***

Пра тое, што яны падтасаваныя, я сьведчу на сваім узроўні – як грамадзкі назіральнік, што сачыў за выбарамі ад 6-га верасьня на 95-ым Кастрычніцкім участку. Спачатку старшыня камісіі сп.Кузьміноў паставіўся да мяне даволі лагодна, дзяліўся зьвесткамі аб прагаласаваўшых датэрмінова, уступаў у гаворку па любых выбарчых пытаньнях. А ўжо 9-га верасьня ён адмаўляўся мяне прызнаваць і нават паспрыяў майму выдаленьню з участку. Што заставалася? На сваю рызыку я наладзіў апытаньне людзей на выхадзе з участку. У асноўным выбаршчыкі ўступалі ў кантакт даволі ахвотна і шчыра. І вось што паведамілі: з 61-го апытанага 42 чалавека прагаласавалі супраць Лукашэнкі (36 – за Ганчарыка, 3 – за Гайдукевіча, 3 – супраць усіх). А перамог па ўчастку Лукашэнка, ды яшчэ зь перавагай ледзь ня ў 70 адсоткаў...

Гаворка, аднак, пра іншае. Пра тое, што мы – усе ўдзельнікі выбараў з дэмакратычнага боку – не былі як сьлед гатовыя да таго, каб перашкодзіць фальсыфікацыям і падману, каб арганізаваць саміх выбаршчыкаў на самакантроль і самапавагу. Доўга раскачваліся дэмакраты, не прадумалі ўсе магчымыя сытуацыі з тым, каб апэратыўна ўнесьці зьмены ў арганізацыю працы, інфармаваньне грамадзкасьці праз СМІ і г.д. Панадзявалі на сябе і падлеткаў, часта далёкіх ад разуменьня сутнасьці і мэханізму выбарчага працэсу, адмысловыя майкі з выбарчай сымболікай – і шпацыравалі па вуліцах, раздражняючы і ўладу, і абывацеляў. Ды яшчэ ў сваіх кулюарах нярэдка сварыліся, рэўнавалі, адштурхоўвалі адзін аднаго й ледзь не дзялілі заўтрашнія партфэлі. Відавочна, што ўзровень незадаволенасьці грамадзтва апошнімі 5-цю гадамі жыцьця быў вызначаны апазыцыяй правільна, аднак жа эфэктыўна скарыстаць яго ў мэтах выбарчай кампаніі не ўдалося.

Рэжым сваю справу зрабіў, што й трэба было чакаць. А вось дэмакраты прайгралі, як гэта ня горка прызнаваць. Цяпер, калі ў партыях і грамадзкіх рухах праходзіць абмеркаваньне вынікаў свайго ўдзелу ў выбарах, вельмі важна не валіць усю адказнасьць за сваю паразу на рэжым (хоць ён таго варты, няма слоў). Важна паглядзець на свае рэальныя дзеяньні, сваю актыўнасьць, сваю падрыхтаванасьць. Ясна, што ў нашай краіне перамога ніколі ня зваліцца дэмакратам у рукі сама па сабе. Заваяваць яе – вось задача. Заваяваць негвалтоўна, сумленна, пераканаўча для грамадзтва! І – разам з грамадзтвам – трэба будзе гэта ажыцьцявіць ужо на бліжэйшых мясцовых выбарах. Магчымае такое толькі пры ўмове сумленнага аналізу і ўліку відавочных і схаваных памылак у верасьнёўскай кампаніі. Тут не павінна быць крыўдаў, бо сапраўдная дэмакратыя і дасягаецца, і стаіць на шчырасьці і маралі.

**Сяржук ГІРКІН**

У бліжэйшую нядзелю, 28 кастрычніка, у Магілёве на кар'еры па Дзімітраўскаму праспэкту – на тым месцы, якое мясцовыя гісторыкі, навукоўцы і дэмакраты вызнаюць за магілёўскія Курапаты, пройдзе традыцыйная Хвіліна памяці і жалобы па бязьвінных ахвярах савецка-камуністычнага рэжыму.

Напачатку нядаўніх 90-х гадоў людзі зьбіраліся тут вольна і масава. У жалобных мітынгах удзельнічалі сьвятары абодвух хрысьціянскіх канфэсіяў. Слова бралі прамыя нашчадкі тых, хто спазнаў энкэвэдэшныя парадкі. Аб трагедыі і злачынствах сталінскага рэжыму нагадваў Крыж, усталяваны ў кар'еры грамадзкай ініцыятывай...

Апошнія некалькі гадоў гарадзкая ўлада не дазваляе праводзіць тут афіцыйныя мерапрыемствы. Мітынгі ля кар'ера, прымеркаваныя да Дзядоў, практычна заўсёды сканчаюцца затрыманьнямі тых, каго міліцыянты палічаць за арганізатараў. А ўсё ж штогод, не зважаючы на забарону і перасьлед, як меней дватры дзясяткі чалавек прыходзяць сюды, каб памянуць закатаваных суайчыньнікаў і засьцерагчы свае душы ад чарсьцьвеньня й бяспамяцтва...

Гэтым разам тое будзе ля пакутнага Крыжа 28 кастрычніка, а 14-й...



# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Ужо колькі часу таму зьехаў з Магілёву, дзякуючы ў тым ліку "дбаньню" чыноўнікаў ад культуры, былы кіраўнік лялечнага тэатру Алег Жугжда, а вынікі ягонай ахвярнай працы ў тэатры дасюль прыносяць свае плады. У югаслаўскім горадзе Субоціца быў адзначаны спэктакаль "Чырвоная шапачка" паводле славутай казцы Шарля Пэро. Прызы атрымалі выканальнікі галоўных роляў – акторы Мікалай Сьцешыц і Галіна Барысава, а таксама кампазытар спэктаклю Павал Кандрусевіч.

У магілёўскім паветры, паводле службы кантролю за станам атмасфэры, пабольшала серавадароду і сераўглероду. Гэтыя шкодныя рэчывы трапляюць у атмасфэру з розных крыніцаў, але галоўная зь іх – завод штучнага валакна імя Куйбышава (ЗШВ). Эколягі ўжо даўно засьведчылі той факт, што ЗШВ брудзіць паветра. І як толькі пад уплывам натуральных эканамічных працэсаў прадпрыемства зьменшала аб'ёмы вытворчасьці ці спынялася – паветра ставілася чысьцейшым. Старое абсталяваньне, старыя тэхналёгіі аб'ектыўна мусяць забруджваць атмасфэру, бо стваральнікі той прамысловай базы менш за ўсё клапаціліся пра экалёгію. А зараз у нас – рост вытворчасьці. У выніку ў "сабекошт" сёньняшняй эканамічнай палітыкі занесенае й зьнішчэньне навакольнага асяродзьдзя.

З пачатку году ў нашай вобласьці памёрла на 5,5 тыс. чалавек больш, чым нарадзілася. У некаторых вясковых раёнах памерла нават у 2-3 разы больш! І хоць статыстыка паведамляе, што назіраецца рост нараджальнасьці, ён вельмі кволы – 1,4%... А вось сярод памерлых больш за 22% – людзі працаздольнага ўзросту. І гэтыя паказчыкі сьмяротнасьці таксама маюць тэндэнцыю да павелічэньня. Не выклікае сумневу, што пагаршаецца стан здароўя ў грамадзтве, расьце колькасьць няпоўных сем'яў і дзяцей-сіротаў. Пры гэтым самое грамадзтва ня здольнае штосьці істотнае прадпрыняць, каб пераламіць сытуацыю. Можа адбыцца так, што адзіным промнем надзеі на выздараўленьне стане, хоць і невялікае колькасна, нараджэньне нашых новых суграмадзянаў.

У гарадзкім аддзяленьні сувязі №19 зь ліста прасыпалася белы парашок, што заўважылі супрацоўніцы аддзяленьня. Пазьнейшая экспэртыза ўстанавіла, што парашок быў пральны: нехта проста "пажартаваў". Такое ж пачуцьцё гумару выявіла адна з быхаўскіх настаўніц. Яна даслала сваёй каляжанцы ананімны ліст, зь якога пасыпалася, як потым высьветлілася, звычайная пудра. Аднак перапужаная кабета выклікала да таго часу міліцыю й мэдыкаў. Зараз міліцыя вырашае, якім чынам пакараць праязмерна вясёлую настаўніцу.

У Бабруйску вырашылі праверыць, як выконваюць нарматыўныя дакумэнты мясцовыя прадпрыемствы і ўстановы. Вынікі атрымаліся наступныя: 100% правераных дапусьцілі парушэньні. Кантралёры, як тое прадугледжана, прымянілі санкцыі, канфіскаваўшы ў даход дзяржавы амаль 3 мільёны рублёў. Да розных відаў адміністратыўнай адказнасьці былі прыцягнутыя каля 30 чалавек. Чарговым разам паўстае пытаньне: а можа варта нешта зьмяніць у дзяржаве, бо выглядае на тое, што пры цяперашніх парадках усе грамадзяне ёсьць парушальнікамі тых ці іншых нарматыўных актаў.

У хуткім часе плянуецца значна скараціць колькасьць кандуктараў у грамадзкім транспарце. А пасажырам, якія ўжо адвыклі ад таго, каб загадзя клапаціцца пра талёны, прыйдзецца нагадаць, што яны мусяць іх набіваць у шапіках. А калі там талёнаў няма – то пасажыры будуць самі вінаватыя. Што тычыцца кандуктараў, то гэты інстытут не апраўдаў надзеяў аўтатранспартнага начальства. Людзей на гэтую нэрвовую працу не заўсёды хапала,назіралася вялікая "цякучка"...

У Краснапольскім раёне адбыўся скандал лякальнага значэньня, які добра ілюструе агульны фон жыцьця людзей у беларускай правінцыі. Настаўнікі мясцовай сярэдняй школы напісалі ў кантрольныя органы ліст з патрабаваньнем пакараць свайго дырэктара: маўляў, ён прысвойвае сабе грошы. У гэтай школе ёсьць невялічкая сьвінафэрма. Частку жывёлаў здавалі на мясакамбінат, частку – у выглядзе мясных набораў – прадавалі сваім настаўнікам. Грошы мусілі ісьці на патрэбы школы. Дык высьветлілася, што дырэктар не здаваў фінансы ў бугальтэрыю, а складваў у свой сэйф. Не здаваў, бо баяўся, што дзяржава не аддасі й школа застанецца без зробленых рублёў. Сабе ў кішэню ён нічога не паклаў, акрамя таго факту, што калі адпачываць паехаў, то прыплаціў з тых грошай 70 тыс. рублёў. Аднак пэдагогі абазьліліся на яго за тое, што зробленыя на сьвінафэрме грошы трапіліся (што пацьверджана дакумэнтальна) на патрэбы школы ўвогуле, а не на іхныя заробкі. Беднасьць настаўнікаў, жабрацтва як стан жыцьця – вось што тут прычынай.

*Да сустрэчы праз тыдзень, Сымон Глаштэйн.*

# Той жа тэрарызм

***Магчыма, што ня будзе перабольшаньнем лічыць наркаманію ня менш небясьпечнай за тэрарызм. У нашай краіне і ў нашай вобласьці, у прыватнасьці, сьмяротная гэтая небясьпека штогод пашырае сваю прастору і нарошчвае магутнасьць.***

Пры ўсёй закрытасьці для грамадзтва гэтай тэмы (акрамя агульнаслоўнай супрацьнаркаманнай прапаганды) вядома, што сёньня наркаманія маладзее, што сёньня яна прыйшла нават у школы. Такія рэчы, як паленьне тытуню і ўжываньне сьпіртовых напояў ва ўзросьце, далёкім да поўнагадовасьці, наўпрост ня лічацца чымсьці асаблівым.

Прадстаўніцтва дзіцячага Фонду ААН (ЮНІСЭФ) у Беларусі праз грамадзкі Моладзевы адукацыйны цэнтар "Фіяльта" сёлета распачынае адукацыйную праграму, мэта якой – добраахвотнае навучаньне і праяўленьне ініцыятываў сярод навучэнскай моладзі ў змаганьні з наркаманіяй, прадухіленьні яе распаўсюджваньня і прафіляктыкі ВІЧ/СНІД інфэкцыяў. Праграма арганізуецца паводле прынцыпу "Роўны навучае роўнага", гэта значыць, што спэцыяльна падрыхтаваныя маладыя людзі ва ўзросьце ад 14 да 22 год будуць распаўсюджваць інфармацыю пра наркаманію, ВІЧ і СНІД сярод сваіх аднагодкаў. Цэнтар такога навучаньня будзе створаны і ў Магілёве, з удзелам і на базе грамадзкай арганізацыі "Лекарскі саюз". Першыя заняткі ў ім з групай ужо падабранай моладзі распачаліся ў мінулую сераду. Адметна, што на першы сэмінар сабралася вялікая аўдыторыя юных добраахвотнікаў, а кандыдатура кожнага маладога чалавека была загадзя ўзгодненая з дырэктаратамі гарадзкіх сярэдніх школаў. Падлеткі выказалі жаданьне прыняць удзел у высакароднай справе змаганьня зь "бяззбройным тэрарызмам" праз засваеньне адпаведных ведаў і мэтодыкі. У цэнтры навучаньня яны пасябруюць з Інтэрнэтам, будуць выпрацоўваць інфармацыйныя матэрыялы, пэрыядычныя выданьні малога фармату – буклеты, календары, паштоўкі, улёткі, плякаты. Найбольш важкай часткай праграмы стане распрацоўка і правядзеньне акцыяў, накіраваных на прыцягненьне ўвагі моладзевага асяродзьдзя і ўсяго грамадзтва да праблемаў барацьбы з наркаманіяй, яе папярэджваньня і лячэньня. Першыя маштабныя акцыі ў гэтым кірунку пройдуць у Магілёве на Сусьветны Дзень прафіляктыкі СНІД – 1сьнежня.

*Уласная інф.*



Фота Д.НОВІКАВА

# А неафіцыйна – у 10 разоў болей

***У Беларусі створаная нацыянальная сетка прафіляктыкі наркаманіі ды ўкаранёны новы мэтад рэабілітацыі наркаманаў.***

Адпаведны сямігадовы праект рэалізоўваў галандзкі Джэлінэк-цэнтар і Беларуская псыхіятрычная асацыяцыя пад згідай Эўрапейскага бюро Міжнароднай арганізацыі аховы здароўя. Выканаўцы праекту наладзілі ў Беларусі некалькі інфармацыйных кампаніяў, стварылі нацыянальную прафіляктычную сетку і новую сыстэму рэабілітацыі наркаманаў. Дырэктар нідэрляндзкага Джэлінэк-цэнтру Кім Бэйсман сказаў, што ён задаволены вынікамі праекту: "За 7 гадоў супрацоўніцтва мы дасягнулі сур'ёзных вынікаў. Калі параўноўваць беларуска-галяндзкі праект з тымі, у якіх я ўдзельнічаў раней (прыкладам, у Румыніі ды Чэхіі, а таксама ў краінах Эўразьвязу), то ён вельмі эфэктыўны. За гэты час мы падвысілі інфармаванасьць насельніцтва, прафэсійны ўзровень людзей, якія дапамагаюць рэабілітавацца. А самае галоўнае – мы стварылі нацыянальную прафіляктычную сетку".



Фота IREX

У Беларусі афіцыйна зарэгістравана 7,5 тысяч наркаманаў. Паводле словаў галоўнага нарколяга Міністэрства аховы здароўя Беларусі Ўладзімера Максімчука, у Менску іхная сапраўдная колькасьць перавышае афіцыйныя зьвесткі ў 12 разоў, а ў рэгіёнах – у 7 разоў. 65% наркаманаў – гэта людзі ва ўзросьце да 25 гадоў.

Дарэчы, трапляюць наркотыкі ў Беларусь праз усходнюю мяжу, што прызнае і спадар Максімчук, які заявіў, што "геаграфічнае разьмяшчэньне ўплывае на наркагенную абстаноўку". Падаецца важным й наступнае сьцьверджаньне галоўнага нарколяга краіны: "мы ня лічым сацыяльны фактар, які безумоўна адыгрывае сваю ролю ў распаўсюдзе наркаманіі, галоўным".

*Ягор МАЁРЧЫК*

# Словы і справы

***Рэгіянальны дырэктар Міжнароднай арганізацыі працы Жан-Віктор Груа зьвярнуў асаблівую ўвагу на забесьпячэньне правоў прафсаюзаў у Беларусі.***

Днямі ў Менску Ж-В. Груа абмяркоўваў цяперашнюю сытуацыю з правамі беларускіх прафсаюзаў і пэрспэктывы супрацоўніцтва зь імі Міжнароднай арганізацыі працы. Сп.Груа паведаміў, што ягоная арганізацыя будзе надалей пільна адсочваць сытуацыю ў нашай краіне, асабліва ў сувязі з рэкамэндацыямі Камітэту па свабодзе аб'яднаньняў. Таксама ён сказаў, што працягнецца тэхнічная дапамога беларускім прафсаюзам.

Як вядома, у чэрвені каля 170 краінаў сьвету на канфэрэнцыі МАП прагаласавалі за тое, каб уключыць Беларусь у спэцыяльны параграф Міжнароднай арганізацыі працы. Рашэньне прадугледжвае міжнародны ціск на афіцыйны Менск з мэтай спыненьня антыпрафсаюзных дзеяньняў.

Між тым, улады Беларусі адрэагавалі на тую падзею неадпаведным чынам. Пра гэта спадару Груа гаварылі беларускія прафсаюзныя лідэры. Яны паведамілі новыя факты пра парушэньні правоў прафсаюзаў, у тым ліку ўжо пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Сярод іх – фінансовая блякада Фэдэрацыі прафсаюзаў, ігнараваньне правоў рабочых Менскага трактарнага заводу, а таксама шэрагу прадпрыемстваў Магілёўшчыны (дзе адміністрацыі адмаўляюцца прызнаваць незалежныя прафсаюзныя аб'яднаньні). Віцэ-прэзыдэнт Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Уладзімер Макарчук падкрэсьліў, што пасьля выбараў палітыка рэжыму не зьмянілася: "Ніякіх паляпшэньняў ня бачна. Больш за тое, ёсьць зьмены да горшага. Суды, якія разглядалі прафсаюзныя справы, насуперак заканадаўству прымалі рашэньні супраць прафсаюзаў. Мы бачым, што ўрад дэзынфармуе міжнародную супольнасьць: для яе заяўляе адно, а робіць зусім іншае".

*Міхал СТЭЛЬМАК*

# Праграма тэлебачаньня з 29 кастрычніка па 4 лістапада

## •• Понедельник, 29 октября ••

**Праграму тэлеканалаў мы друкуем на замову чытачоў. Гаспадары праграмы падаюць нам яе па расейскай. Рэдакцыя фізычна (па часе) не пасьпявае яе перакласьці. Просім разглядаць гэтыя старонкі як тэхнічна-службовы матэрыял, які ня мае дачыненьня да зьместу й характару нашай газэты.**

**БТ**
6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.25 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
9.15 Док. сериал «Страны мира».
10.05 «Страсти». Сериал.
10.50 Телебарометр.
11.05 «Человек моря».
13.40 «Долгая дорога в дюнах». Худ. фильм.
15.15 Сериал «Жюли Леско».
17.00 «Страсти». Сериал.
18.20 Зона Икс.
18.30 «Пятое измерение».
18.55 Боевик «Постовой на перекрестке».
20.45 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.45 «Человек моря».
22.30 Стадион.
22.55 Планета «АРТ».

**ОРТ**
8.00, 11.00, 17.00 Новости.
8.15 «Земля любви».
9.15 «Каменская: Шестерки умирают первыми».
10.20 Док. детектив. «Время разбрасывать камни». Дело Гохрана. 1994 год.
10.50 Библиомания.
14.55 «Вечный зов». Сериал.
16.00 Большая стирка.
17.25 «С легким паром!»
18.00 «Земля любви».
19.00 Жди меня.
20.00 Время.
20.35 «Убойная сила-3. Предел прочности».
21.45 Независимое расследование.
22.30 Ночное «Время».
23.00 «На футболе».
23.40 «Паранормальные явления. Закрытое досье».

**РТР**
7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
7.15 «Экспертиза РТР».
7.30 «Москва-Минск».
7.50 Вести-Москва.
8.15 Боевик «Марс атакует».
10.30 «Фитиль».
10.55 Детектив «Кобра».
16.30 «Экспертиза РТР».
17.00 «Возвращение в Эдем».
18.00 Телесериал «Московские окна».
19.35 Вести-Москва.
19.55 Детектив «Пуаро Агаты Кристи. Немой свидетель».
22.00 Вести+подробности.
22.30 Вести - Москва.
22.40 Детектив «Ключи от рая».

**НТВ**
5.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.05 Сегодня.
7.55 Криминал. «Чистосердечное признание».
8.25 Служба спасения.
9.30 Намедни.
10.40 Куклы.
11.30 Наше кино. «Млечный путь».
13.50 «Королева Марго».
15.30 «Салон красоты».
18.35 Герой дня.
18.55 «День рождения буржуя-2».
20.00 Алчность.
21.55 «Скорая помощь».
23.30 Гордон.

**КУЛЬТУРА**
11.30, 15.00 Новости культуры.
11.45 «Любовь». Худ. фильм.
13.10 Мультфильм.
13.30 Вместе с Фафалей.
13.45 Все суры Корана.
14.05 Живое дерево ремесел.
14.15 Архитектурная галерея.
14.30 «Осенние портреты».
15.10 Кино - детям. «Магические приключения. Прикосновение Мидаса».
15.35 Нобелевские лауреаты.
16.15 Концертино.

**МОГИЛЕВ-1 на БТ**
12.15 Пунктир.
12.45 Видеодром.
13.05 «Родны край».

**МОГИЛЕВ-1**
6.30 «Ранехонько!»
8.05 «Страна женщин».
8.50 «Дикая Америка».
9.15 «Осень в Нью-Йорке». Мелодрама.
11.00 Мультфильмы.
16.30 «Женщина-полицейский».Зак. л.серия.
17.30 «Дикая Америка».
17.55,20.00 «Праздник в Вашем доме».
19.00 Тяжелый день.
19.30 День области.
21.00 «Тревожное воскресенье».Худ.фильм.
22.25 Новости.Погода.
22.35 «Человек, который плакал». Драма.

**2-Й КАНАЛ**
7.00,7.30, 7.55, 8.20, 9.30, 11.25, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55 Городской вестник.
7.05, 7.35 Энергетический завтрак.
8.00, 10.00 Сейчас.
8.25 «Сыщики»: «Раскаявшиеся грешники».
9.35 Итого.
10.25 «Сыщики»: «Черт лысый».
11.30 «Все в сад!»
13.00 ТВС на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30, 21.35 Гарадскія навіны.
19.00 «Нина».
20.00 «В гостях у бабки Агапки».
20.15, 21.00 «Поздравления».
22.00 Грани.
22.40 Детектив «Двойное подозрение».
0.25 MTV.

## •• Вторник, 30 октября ••

**БТ**
6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.10 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
9.15 «Страсти». Сериал.
11.00 «Человек моря».
12.15 Добрый день, Беларусь!
13.00 «Долгая дорога в дюнах». Худ. фильм.
14.15 Док.сериал «Сокровища мировой культуры».
15.15 «Дэнни, расскажи мне историю». Док. сериал.
15.25 «Все на орбиту!»
15.35 «Маленькие Эйнштейны».
16.10 «Пять чудес».
16.20 «5 х 5».
17.00 «Страсти». Сериал.
18.20 Зона Икс.
18.30 «Москва - Минск».
18.45 «Франсуа-подкидыш». Худ. фильм.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.45 «Человек моря».
22.30 Спорт-курьер.
22.40 Ток-шоу «Дела житейские».

**ОРТ**
8.00, 11.00, 17.00 Новости.
8.15 «Земля любви».
9.15 «Каменская: Шестерки умирают первыми».
10.20 «С легким паром!»
10.50 Библиомания.
14.55 «Вечный зов». Сериал.
16.00 Большая стирка.
17.25 Спасатели. Экстренный вызов.
18.00 «Земля любви».
19.00 «Слабое звено».
20.00 Время.
20.35 «Убойная сила-3. Спидвей».
21.45 Кремль -9. «Гараж особого назначения».
22.30 Ночное «Время».
23.00 Цивилизация.
23.35 Худ. фильм «Распутин».

**РТР**
8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
8.15 «Семейные тайны».
9.10 Диалоги о животных.
10.30 «Санта-Барбара».
16.30 «Экспертиза РТР».
17.00 «Возвращение в Эдем».
18.00 «Московские окна».
19.35 Вести-Москва.
19.55 «Семейные тайны».
21.00 Док. фильм «Беларусь».
22.00 Вести+подробности.
22.30 Вести - Москва.
22.40 Боевик «Гонконгский клинок».

**НТВ**
5.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.05 Сегодня.
7.55 «Скорая помощь».
9.25 Алчность.
10.05 Шоу Елены Степаненко.
11.20 Наше кино. «Их знали только в лицо».
13.45 «Королева Марго».
15.30 «Салон красоты».
16.35 «День рождения буржуя-2».
18.50 Футбол. «Локомотив» — «Реал» (Мадрид).
21.55 «Скорая помощь».
23.30 Гордон.
0.15 Дневник Лиги чемпионов.
0.55 Футбол. «Ливерпуль» (Англия) — «Боруссия» (Германия).

**КУЛЬТУРА**
11.30, 15.00 Новости культуры.
11.45 «Остальное — молчание». Худ. фильм.
13.30 Вместе с Фафалей.
13.45 Дело житейское.
14.15 Власть факта.
14.30 Сценограмма.
15.10 «Магические приключения. Прикосновение Мидаса».
15.35 Док. экран.

**МОГИЛЕВ-1 на БТ**
10.09 Тяжелый день.
10.29 «Автобусный парк №2 г.Бобруйска».
10.44 Мультфильм.

**МОГИЛЕВ-1**
6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 Утренние новости.
8.05 «Страна женщин».
9.00 Утренние новости, «Без протокола».
9.10 «Дикая Америка».
9.35 Мультфильмы.
10.09 Тяжелый день.
10.29 «Автобусный парк №2 г.Бобруйска».
10.44 Мультфильм.
16.30 «На тропе волка».Сериал.
17.15 Мультфильм.
17.30 «Дикая Америка».
17.55, 20.00 «Праздник в вашем доме».
19.00 Бобруйский вариант.
19.30 День области.
19.45 «Без протокола».
21.00 «Страна женщин».
21.50 Новости.Погода. «Без протокола».
22.00 «Посланник». Фантастика.

**2-Й КАНАЛ**
7.00,7.30, 7.55, 8.20, 9.25, 11.25, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55 Городской вестник.
7.05, 7.35 Энергетический завтрак.
8.00, 10.00 Сейчас.
8.25 «Сыщики»: «Иерихонские трубы».
9.30 «Без галстука».
10.25 «Забытый полк».
11.30 Катастрофы недели.
13.00 ТВС на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30 «Таинственные рыцари Тир На Ног».
19.00 «Нина».
20.00 «В гостях у бабки Агапки».
20.15, 21.00 «Поздравления».
21.40 «Ракурс».
22.00 Грани.
22.40 Комедия «Дуэты».
0.45 MTV.

## •• Среда, 31 октября ••

**БТ**
6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 0.00 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
9.15 «Страсти». Сериал.
10.10 Здоровье.
10.35 Сад мечты.
11.00 «Человек моря».
12.15 Добрый день, Беларусь!
13.00 «Долгая дорога в дюнах». Худ. фильм.
14.15 Док.сериал «Сокровища мировой культуры».
15.15 «Дэнни, расскажи мне историю». Док.сериал.
15.25 «Все на орбиту!»
15.40 «Маленькие Эйнштейны».
16.10 «Пять чудес».
16.20 «5 х 5».
17.00 «Страсти». Сериал.
18.20 Зона Икс.
18.30 Час профессионала.
18.55 Худ.фильм «Записки юного врача».
20.05, 23.30 Настольный теннис. Женщины. Беларусь — Италия.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.45 «Человек моря».
22.30 Спорт-курьер.
22.40 Криминальное досье.
23.05 «Встреча в Троицком».

**ОРТ**
8.00, 11.00, 17.00 Новости.
8.15 «Земля любви».
9.15 «Убойная сила-3. Предел прочности».
10.20 Спасатели.
10.50 Библиомания.
14.55 «Вечный зов».
16.00 Большая стирка.
17.25 Смехопанорама.
18.00 «Земля любви».
19.00 «Кто хочет стать миллионером?»
20.00 Время.
20.35 «Убойная сила-3. Закон перспективы».
21.45 Как это было. «Вторые похороны Сталина».
22.30 Ночное «Время».
23.00 Русский экстрим.
23.35 Боевик «Заложники».

**РТР**
8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
8.15 «Семейные тайны».
9.10 Диалоги о животных.
10.30 «Санта-Барбара».
16.30 «Экспертиза РТР».
17.00 «Возвращение в Эдем».
18.00 «Московские окна».
19.35 Вести-Москва.
19.55 «Семейные тайны».
22.00 Вести+подробности.
22.30 Вести - Москва.
22.40 Худ. фильм «Хэллоуин: 20 лет спустя».

**НТВ**
5.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
8.00 «Скорая помощь».
9.25 Алчность.
10.05 Квартирный вопрос.
10.35 «Среда».
11.25 Комедия «Говорящая обезьяна».
13.50 «Королева Марго».
15.30 Наше кино. «Взбесившийся автобус».
18.35 Герой дня.
18.55 «День рождения буржуя-2».
20.00 Алчность.
21.35 Футбол. «Фейеноорд» — «Спартак» (Москва).
23.50 Третий тайм.
0.50 Гордон.
1.25 Футбол. «Селтик» — «Ювентус».

**КУЛЬТУРА**
11.30, 15.00 Новости культуры.
11.45 «Начало». Худ. фильм.
13.10 Мультфильм.
13.30 Вместе с Фафалей.
13.45 Пути Господни...
14.15 Чем живет Россия.
14.30 Блистательный Санкт-Петербург.
15.10 «Магические приключения. Прикосновение Мидаса».

**МОГИЛЕВ-1 на БТ**
10.34 Бобруйский вариант.
10.54 Мультфильм.

**МОГИЛЕВ-1**
6.30,7.10 «Ранехонько!»
7.00 Утренние новости.
8.05 «Страна женщин».
9.00 Утренние новости.
9.10 «Дикая Америка».
9.35 Мультфильмы.
10.34 Бобруйский вариант.
10.54 Мультфильм.
16.30 «На тропе волка».
17.15 «Золотой шлягер» - 20 век».
18.30 «Сегодня на сегодня». Прямая линия.
19.30 День области.
19.45 «Без протокола».
20.00 «Праздник в вашем доме».
21.00 «Страна женщин».
21.50 Новости.Погода.
22.00 Спорт планеты.

**2-Й КАНАЛ**
7.00,7.30, 7.55, 8.20, 10.25, 11.20, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55 Городской вестник.
7.05 Энергетический завтрак.
8.00, 10.00 Сейчас.
8.25 «Сыщики»: «Гончие по кровавому следу».
9.30 «Завтрак с Соловьевым».
10.30 «Улицы разбитых фонарей».
11.30 «Просто звери».
13.00 ТВС на польском.
18.00 «Победоносный голос верующего».
18.30, 21.35 Гарадскія навіны.
19.00 «Нина».
20.00 «В гостях у бабки Агапки».
20.15, 21.00 «Поздравления».
22.00 Грани.
22.40 Боевик «Турбулентность-3».
0.25 MTV.

## •• Четверг, 1 ноября ••

**БТ**
6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 0.25 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
9.15 «Страсти».
10.40 «Радуга над Витебском».
11.00 «Человек моря».
12.15 Добрый день, Беларусь!
13.00 «Долгая дорога в дюнах». Худ. фильм.
14.15 Док. сериал «Сокровища мировой культуры».
15.15 «Дэнни, расскажи мне историю». Док.сериал.
15.25 «Все на орбиту!»
15.40 «Маленькие Эйнштейны».
16.10 «Пять чудес».
16.20 «5 х 5».
17.00 «Страсти». Сериал.
18.20 Зона Икс.
18.30 Драма «Дюна».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.45 «Человек моря».
22.30 Спорт-курьер.
22.40 Королевская охота.
23.05 Хоккей. Чемпионат Беларуси. «Гомель» — «Керамин-Минск».

**ОРТ**
8.00, 11.00, 17.00 Новости.
8.15 «Земля любви».
9.15 «Убойная сила-3. Спидвей».
10.20 Смехопанорама.
10.50 Библиомания.
14.55 «Вечный зов». Сериал.
16.00 Большая стирка.
17.25 «Сами с усами».
18.00 «Земля любви».
19.00 «Слабое звено».
20.00 Время.
20.35 «Каменская: Смерть и немного любви».
21.40 Человек и закон.
22.30 Ночное «Время».
23.00 Премьера. «Ночная смена».

**РТР**
8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Вести.
8.15 «Семейные тайны».
9.10 Диалоги о животных.
10.30 «Санта-Барбара».
16.30 «Экспертиза РТР».
17.00 «Возвращение в Эдем».
18.00 «Московские окна».
19.35 Вести-Москва.
19.55 «Семейные тайны».
22.00 Вести+подробности.
22.30 Вести - Москва.
22.40 Боевик «Карты, деньги, два ствола».

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Асіповічаў



***Хутка горад будзе мець уласны герб.***

Сёньня скончаецца тэрмін падачы чарцяжоў у адмысловую камісію, якая й зацьвердзіць праект новага гербу. Яго аўтар атрымае ганарар у памеры 10-ці мінімальных заробкаў.

***У мясцовым аўтапарку падлічылі, што кампостэры будуць таньнейшымі за кандуктараў.***

У горадзе працуюць 14 маршрутаў аўтобусаў, у кожным зь якіх – па 4 кандуктары ды яшчэ армія кантралёраў. Цяпер жа трэба будзе ўтрымоўваць толькі кантралёраў. А вось як хутка пасажыры прызвычаюцца купляць талёны ў шапіку, невядома.

***Паводле неафіцыйнай інфармацыі, мясцовы аўтазавод яшчэ да новага году разьвітаецца з паўсотняй рабочых.***

Справа ў тым, што асноўную частку вытворчасьці мясцовы аўтазавод пастаўляе на МАЗ, вакол якога апошнім часам адбываюцца розныя мэтамарфозы. А можа, пранясе?..

***Картонна-рубероідны завод – АТ "Дах", зноў уходзіць у "зімовую сьпячку".***

Кожную зіму на працягу апошніх гадоў завод "адпачывае". Вось і зараз склады забітыя прадукцыяй, якая даражэйшая за аналягічную расейскую (пры тым, што асноўны спажывец – тая ж Расея).

**Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ**

### ...з Крычава

***Нягледзячы на неспрыяльныя тэхнічныя ўмовы, рэдакцыйная калегія інфармацыйнага бюлетэню "Наша думка" надрукавала і распаўсюдзіла чарговы, 25-ты нумар.***

Бюлетэнь выдаецца ўжо цягам двух гадоў тутэйшым грамадзкім аб'яднаньнем "Кантакт-цэнтар". Акрамя таго, былі выдадзены чарговы, 14-ты нумар Крычаўскага праваабарончага весьніка, у якім асьвятляюцца парушэньні правоў чалавека ў рэгіёне падчас выбараў прэзыдэнта і спробы барацьбы зь імі.

***У панядзелак адбылася рабочая сустрэча актываў мясцовых філіяў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" і Аб'яднанай грамадзянскай партыі.***

Абмяркоўвалася каардынацыя супольнай дзейнасьці, сытуацыя ў абласной арганізацыі АГП, дзе днямі ў выніку спраздачна-выбарчага паседжаньня быў абраны новы кіраўнік, а таксама складаная сытуацыя ў абласной арганізацыі БСДП "НГ".

***На мінулым тыдні крычаўскія ўладальнікі маршрутных таксі не працавалі. Прычына – высьвятленьне адносінаў прыватнікаў з выканкамам.***

Гісторыя прыватных унутрыгарадзкіх перавозак у Крычаве пачалася зімой 1999 года. Тады некалькі "маршрутак" проста выратавалі замярзаючых на прыпынках крычаўцаў. Сёньня ў раёне 47 прадпрымальнікаў перавозяць пасажыраў. Яны не вымагаюць грошай у дзяржавы, плоцяць фіксаваны штомесячны падатак у памеры 38 эўра з кожнага. Кошт праезду – 150 рублёў (у Магілёве – 350 рублёў). Аднак чыноўнікі зараз увялі шэраг абмежаваньняў для атрыманьня ліцэнзіі й павялічылі колькасьць неабходных для гэтага дакумэнтаў. Больш за тое: кожнаму таксісту будзе ўстаноўлены маршрут і расклад руху, час пачатку і заканчэньня працы...



***У гістарычнай частцы Крычава, якраз там, дзе пачынаўся ў XII стагодзьдзі старажытны Крэчут (так называўся летапісны горад), было зьнішчанае самае старое ва ўсходняй Магілёўшчыне дрэва.***

Невядомыя вандалы аблілі дуб-волат бэнзінам і падпалілі. Магутнае дрэва перажыла росквіт Вялікага Княства і яго занепад, шляхецкія вольнасьці і жах прыгоннага права, паўстаньні і крывавыя войны, бачыла магутных Радзівілаў і "сьвятлейшага" князя Пацёмкіна, караля Жыгімонта і імпэратрыцу Кацярыну. З 30-мэтровай вышыні глядзеў дуб на тое, што адбывалася ў родным Крычаве, глядзеў і запамінаў – пісаў свой пяцісотгадовы летапіс...

**Андрэй КУЗЬМІН**

### ...зь Бялынічаў



***У мінулую пятніцу з нагоды 10-годзьдзя сьмерці паэта Віктара Хаўратовіча ў СШ №2 адбыўся адкрыты ўрок яго творчасьці.***

З успамінамі аб паэце выступілі Міхась Радоўскі, Надзея Палоньнік, Генадзь Лапо, Ала Войлакава, Міхась Карпечанка. Навучэнкі Тацяна Бандарэнка і Сьвятлана Краўцова ўзьнёсла прачыталі вершы паэта, якія маюць грамадзянскае гучаньне. Пасьля ўроку ўсе жадаючыя наведалі магілу В.Хаўратовіча й паклалі на яе жывыя восеньскія кветкі.

***Прадпрымальнікі, што маюць гандлёвыя палаткі на мясцовым рынку, зьбіраюць подпісы пакупнікоў супраць магчымага пераносу рынку на ўскраіну.***

Яны гатовыя ахвяраваць грошы на асфальтаваньне пусткі за сьцяной, што побач з рынкам, каб паставіць там свае палаткі. За гэта яны просяць колькі часу не спаганяць зь іх штодзённую плату за гандлёвае месца. Цягам двух дзён было сабрана 78 подпісаў пакупнікоў. Апроч таго, прадпрымальнікі абмяркоўваюць ідэю стварэньня сваёй суполкі свабоднага прафсаюзу.

***На шчасьце, ёсьць яшчэ ў нас бібліятэкі, якія працуюць як сапраўдныя асяродкі нацыянальнай культуры, а не канторы, дзе выдаюцца кнігі.***

Такім асяродкам зьяўляецца, напрыклад, Цяхцінская сельская бібліятэка. Пры ёй дзейнічае гурток юных краязнаўцаў, якія зьбіраюць зьвесткі для раённай краязнаўчай энцыклапэдыі, створаны музэй "Беларуская хатка". Ён, дарэчы, стылізаваны пад старасьвецкую вясковую хату: маецца печка, саматканы ложак, падвешаная пад столь калыска, ткацкі станок, шматлікія бандарныя вырабы, адмыслова для патрэбаў музэю зробленыя рукамі мясцовых майстроў Плехавых – бацькі й сына.

У цяхцінскай "Беларускай хатцы" настаўнікі тамтэйшай школы з ахвотаю праводзяць урокі роднае мовы, літаратуры й гісторыі. Паболей бы такіх бібліятэк!

***Ня так даўно на Ўдомельшчыне прайшоў 6-ты міжнародны плэнэр па жывапісу імя Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, які быў прымеркаваны да яго 130-годзьдзя.***

Адным з непасрэдных вынікаў сталася папаўненьне фонду раённага мастацкага музэя творамі некаторых удзельнікаў плэнэру з расейскага боку. Свае працы перадалі сваячка Бялыніцкага-Бірулі Алена Цімакова з Масквы, а таксама Барыс Фёдараў і Алег Хамутоў зь Цьвяры.

**Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ**

### ...з Дрыбіна



***Каля ста мільёнаў рублёў заробку не атрымалі калгасьнікі й саўгасьнікі раёну.***

Бюджэтнікі таксама чакаюць грошай: апошнім разам яны атрымоўвалі заробак якраз напярэдадні выбараў. Сёньня ў раёне бюджэтніка не хапае падобнага стымулу.

***23-га кастрычніка ў раённы цэнтар з Пашкава была выкліканая адмысловая брыгада.***

Ёй давялося абязшкоджваць 76-мілімэтровы артылерыйскі снарад, які быў знойдзены на адным з гародаў у вёсцы Старакожаўка. Крыху больш за месяц таму сапёры ўжо прыязджалі, каб абязшкодзіць гранату Ф-1.

**Фядос НАЗІРАЛЬНЫ**

## КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ




# Ці паслухае ўлада сьвятароў

***Актывісты грамадзкай ініцыятывы "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" сустрэліся непасрэдна ў Курапатах з генэральным дырэктарам прадпрыемства "Магістральаўтадор" Анатолем Лыціным.***

Дырэктар зыходзіў з высновы, што пачаць будаўніцтва кальцавой дарогі ў абыход Курапатаў ужо немагчыма. Ён зазначыў, што ў яго кампэтэнцыі толькі пытаньні добраўпарадкаваньня ўрочышча, а што да аднаўленьня работаў, дык пачнуцца яны хутчэй за ўсё бліжэйшым тыднем.

Тым часам ратавальнікі сьвятога месца не зыходзяць і рыхтуюцца да працяглай вахты. Адное бянтэжыць моладзь, якая дзяжурыць тут удзень і ўначы амаль месяц, – што цікавасьць грамадзтва да падзеяў вакол Курапатаў падае. Пераcталі прыходзіць з словамі падтрымкі жыхары бліжэйшага мікрараёну. Ня шмат людзей зьбіраюць нядзельныя талакі. Хлопцы маюць патрэбу ў цёплым адзеньні і падсілкаваньні.

Маральная дапамога прыйшла днямі зь нечаканага боку. У Менску адмысловую сустрэчу з нагоды падзеяў вакол сьвятога ўрочышча правялі прадстаўнікі чатырох рэлігійных хрысьціянскіх канфэсіяў. Яны зьвярнуліся да ўладаў з заклікам спыніць панішчэньне Курапатаў і паставіцца да гэтага месца адпаведна маралі і духоўнасьці. Сваю заяву яны прынялі аднадушна і афіцыйна накіравалі яе на адрас Адміністрацыі краіны.

*Паводле інф. агенцыяў*



# Сьніліся родныя песьні

***Мы раздумвалі, ці варта ў гэты час друкаваць нататкі аб краіне, якая ўваходзіць ці ня ў першую дзясятку ў сьвеце па парушэньнях дэмакратычных нормаў, правоў чалавека, у якой заціскаюцца любыя свабоды, а ўсе памылкі і злачынствы сьпісваюцца на "ворагаў" Правадыра, альбо на ворагаў сваёй веры. Ніякага спачуваньня да гэтага рэжыму, зразумела, у нас няма. Але ж людзі і рэжымы – не заўсёды адно і тое ж. Да таго ж правадыр краіны, пра якую гаворка ў публікацыі, адным зь першых у рэгіёне адмежаваўся ад тэрарызму і выказаў падтрымку апошнім дзеяньням ЗША, уключна з вайсковай апэрацыяй супраць Бін Лядэна. Абвесьціць на ўвесь сьвет такое, знаходзячыся ў атачэньні сваіх антыамэрыканскіх суседзяў – гэта альбо шчырасьць, за якой могуць пасьледаваць добрыя перамены, альбо арабская хітрасьць. А пакуль тое выявіцца, можа й карысна будзе прачытаць расповяд пра гэтую краіну нашага суайчыньніка, даўняга знаёмца й нават паплечніка па дэмакратычных памкненьнях, які нядаўна адтуль вярнуўся...***

*...Ёсьць у мяне прыяцель, яго завуць Яўген. Звычайны чалавек. Знаёмыя мы зь ім даўно, ён шмат гадоў быў актыўным фронтаўцам, працаваў на грамадзкай ніве, да таго ж – неблагі працаўнік, шмат чаго ўмее. Аднойчы пачуў, што ён паехаў працаваць у Лібію. Шмат хто зьдзівіўся гэткаму ўчынку. Лібія – гэта краіна, якую ў сьвеце баяцца. І раптам туды паехаў на заробкі беларускі патрыёт. Яшчэ тады я вырашыў, што абавязкова паразмаўляю зь ім пасьля ягонага вяртаньня. Урэшце, нашая сустрэча і гутарка адбыліся. Я прыбраў з тэксту свае пытаньні, а пакінуў толькі найпростаевую гаворку самога Яўгена, без выпраўленьняў і камэнтароў. Падаецца, што гэтая гаворка будзе цікавай ня толькі тым, хто б хацеў даведацца пра экзатычную афрыканскую краіну зь іміджам дзяржавы-тэрарыста, але й тым, хто цікавіцца чалавечай здольнасьцю ўспрымаць новыя абставіны, ўжывацца ў іх ды сумяшчаць свае мэнтальныя асаблівасьці з тымі, якія вонкава падаюцца абсалютна чужынскімі.*



## Як паехаў

– Я ў газэце прачытаў аб'яву. Маўляў, фірма набірае спэцыялістаў-будаўнікоў для працы ў Лібіі. Асабліва не разважаў. Заробак фірма абяцала не ніжэй 200 даляраў, а тут я перабіваўся лічы што капейкамі, як і большасьць. А ёсьць жа сям'я, ёсьць жа імкненьне жыць па-чалавечы. Таму й вырашыў, што калі выпадае такая магчымасьць, трэба скарыстацца. Хачу сказаць, што і тут, у гэтай сфэры ёсьць, так бы мовіць, блат. На падобныя працы ўладкоўваюцца па знаёмстве альбо "праставіўшы". Ёсьць працы лепшыя, ёсьць больш цяжкія й менш прыбытковыя. Але я хачу сказаць, што і той мінімум, які ты маеш, працуючы там, шмат вышэйшы за тое, што я мог бы мець дома. Заключыў я кантракт на 12 месяцаў і паляцеў у Афрыку. На месцы нас забясьпечылі ўсім: жыльлём, трохразовым харчаваньнем, мэдычнай страхоўкай. Выходны быў адзіны, працоўны дзень цягнуўся 10 гадзінаў (мы працавалі па ўнутраным распарадку нямецкай фірмы, якая нас наняла, хоць у самой Лібіі працоўны дзень 8 гадзінаў, як у нас). За працу ў сьвяточны дзень нам плацілі ўдвая.

## Як працаваў і жыў

– Працаваць трэба было шмат, а за працай нашай наглядалі пільна. Кожны з кіраўнікоў фірмы, які штось заўважаў, мог нас пакараць – аштрафаваць, пазбавіць часткі заробку. Дарэчы, відаў пакараньня ў іх было няшмат, а па вялікім рахунку – наогул адзін: ледзь што – плаці з сваёй кішэні. Чым горш працуеш, тым менш атрымаеш. Ніякіх прэміяў у нас не было, але й навошта прэміі, калі ў прынцыпе добра плоцяць.



Два разы на тыдзень мы езьдзілі ў горад на аўтобусе, які адмыслова для гэтага выдзяляла фірма. У Лібіі няма легальнага хаджэньня якой замежнай валюты. Толькі мясцовыя дынары, а іх нам выдавалі па 20-30 у месяц (у далярах гэта прыкладна напалову меншая сума). Што можна было набыць за 10-15 даляраў? Пачак цыгарэтаў – 1 дынар, 3 боханы хлеба – чвэрць дынара, тэлевізар – 300 дынараў, адны джынсы – 20 дынараў. Таму, канешне, прыходзілася лічыць грошыкі. У складчыну, прыкладам, набылі сабе калектыўны тэлевізар. На ўсю брыгаду, у якой былі і карэйцы, і "нашыя" сярэднеазіяты, індыйцы, г.д.




## Пра карэйцаў і лібійцаў

– Было цікава пазнаёміцца з паўночнымі карэйцамі. Яны сьвята вераць у свайго правадыра і ў камунізм. Яны вераць у тое, што Карэя абавязкова аб'яднаецца, а прэзыдэнтам застанецца Вялікі Правадыр і Настаўнік, таварыш Кім Чэн Ір. А вось Ельцына, Гарбачова ды шмат каго зь іншых лідэраў былога СССР і Расеі яны лічаць здраднікамі. Гэтаксама, дарэчы, лічаць многія лібійцы.

Зь мясцовымі жыхарамі я паступова навучыўся неяк размаўляць. Дзе ангельскае слова ўставіш, дзе падвучанае лібійскае. Лібійцы вельмі кантактныя людзі. Іхны адпачынак – гэта шматгадзінныя размовы ў кавярнях ды чайных, традыцыйны кальян. Яны любяць вітацца, усьміхаюцца любому сустрэчнаму чалавеку. Усіх нас, хто прыехаў з былога Саюза, успрымаюць як рускіх. Я потым усё ж даводзіў многім, што ёсьць такая краіна – Беларусь, і я родам не з СССР, а з гэтай краіны.

## Шарыят з сацыялістычным тварам

– Лібійцы любяць сваю краіну. У іх нейкае дзіўнае спалучэньне сацыялізму і шарыяту. З аднаго боку, яны ўсе вельмі шчырыя мусульмане. Мячэці, малітвы, муллы – тыповыя рысы лібійскага пэйзажу і стылю жыцьця. Няма такіх рэчаў, як прастытуцыя, няма амаль што крадзяжоў, няма публічнага п'янства. Не гандлююць зброяй, нават халоднай. Калі нехта і займаецца паляваньнем, дык выключна з дапамогай самаробных прыладаў. Жанчыны ходзяць у паранджы, зь імі не загаворыш на вуліцы, не сфатаграфуесься. Пры гэтым жанчыну вельмі шануюць і заўжды (падкрэсьліваю, заўжды!) саступаюць ёй дарогу, месца ў транспарце. Але побач з мусульманскім укладам жыцьця – сацыялістычныя парадкі. Суцэльная ўраўнілаўка, напрыклад. Да таго ж дзяржава ў разьліках зь людзьмі часта выдаткоўвае ня грошы, а прадукты і вырабы. Практычна ўсім, быццам бясплатна, выдаецца цукар і малако. Усе атрымліваюць жыльлё. Сацыялізм, канешне, казармовы. Бо тое ж жыльлё дрэнна ўтрымліваецца, бо яно – нічыё, як бы ня роднае, не сваё. Лібійцу складана зарабляць больш, чым яму вызначана. Усе маюць стандартызаваныя даходы. Сярэдні заробак – 100 дынараў плюс шматлікія сацыяльныя льготы. У гэтым шмат падабенства з былым СССР, які пад цяжарам гэткіх ільготаў-прывідаў і абваліўся. Праўда, у Лібіі ўсё ж ёсьць прыватны бізнэс, але на ўзроўні вельмі дробнага гандлю. Аднак багатыя людзі ёсьць і там. Багацьце гэтае нажываецца праз сувязі і "кармушную" пасаду, якую імкнуцца перадаваць нашчадкам. І тут, як бачыш, па-савецкі...

У Лібіі практычна адсутнічае турызм. У партовыя гарады турыстычныя караблі не заходзяць. Па вуліцах гарадоў натоўпы разнамоўных турыстаў ня швэндаюць. І ўсё ж нельга сказаць, што ў краіне зусім няма праяваў цывілізацыі. Існуюць інтэрнэт-клюбы, ёсьць прыватныя пункты тэлефоннай сувязі. Але паслугі ў іх дарагія й мала хто зь мясцовых наважваецца тым карыстацца.

## Каго яны ня любяць

Каго лібійцы страшна ня любяць, дык гэта, зразумела, амэрыканцаў, брытанцаў і габрэяў. Узгадваецца такі выпадак: адзін з майстроў у нас быў габрэем. Гэта ўстанавіў нейкі інжынэр з Іраку, які побач з намі працаваў. Дык гэтага майстра адразу ж перавялі ў рабочыя. І нічога тут немагчыма было зрабіць, фірма баялася з-за гэтага выпадку згубіць лібійскі заказ.

Дарэчы, іншымі вачыма я пабачыў Ізраіль. Да яго ў Лібіі адмоўнае стаўленьне. Але тое, што падаецца адмоўным для арабаў – у маіх вачох станоўчае. А менавіта працавітасьць, рацыянальнасьць, уменьне наладзіць усё і ўсё выканаць. А вось нашыя адносіны зь мясцовымі, і ня толькі, мэнэджэрамі-арабамі ў выніку стварылі ім вельмі негатыўны імідж, які шмат у чым справядлівы. Арабы ня вельмі добра працуюць. Я не ацэньваю тут чалавечыя якасьці. Мяркую толькі па дзелавых. А яны характарызуюцца такімі словамі як лянота, неарганізаванасьць, маруднасьць, неўпарадкаванасьць і г.д. Як у той казцы пра Аладдзіна, які замаўляў джыну палацы. Той спраўна будаваў, але заўсёды без адной калёны. Так гэта выглядае і ў жыцьці...

## Каддафі

– Каго вышэй за ўсіх на зямлі ставяць лібійцы, дык гэта свайго прэзыдэнта Муамара Каддафі. А можа, ён і заслугоўвае таго. Дзякуючы яму Лібія і незалежнасьць захавала, і спакой. Усюды па гарадох і дробных паселішчах можна пабачыць аграмадныя партрэты Каддафі, які амаль роўны Богу. Калі я паехаў у Лібію, і калі я там жыў, то ня вельмі думаў пра тое, як ставяцца да гэтай краіны ў сьвеце. Ведаў, што многія лічаць яе за краіну-тэрарыста. Шчыра прызнаюся, я не магу зразумець: адкуль там гэтаму тэрарызму ўзяцца?! Мне падаецца, што адносіны амэрыканцаў да Лібіі не заўжды апраўданыя. У краіне няма грамадзянскай вайны, практычна няма злачыннасьці, людзі жывуць у любові да сваёй краіны. Гэта праўда, якую я бачыў на свае вочы.

## Аб чым шкадаваў

– Сумаваў па сваёй краіне. Нічым не ўдавалася загасіць гэтае пачуцьцё. Шкадаваў, што ня ўзяў з сабой касэту зь беларускімі песьнямі. Яе вельмі не хапала...

***Запісаў маналёг Яўгена***
***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***




Гэтыя кнігі можна набыць у Магілёве ў Алеся, замовіўшы іх па тэлефоне 25-57-85 (тэлефанаваць пажадана ўвечары). Кнігі вартыя ўвагі. Васіль Быкаў падчас знаходжаньня па-за межамі краіны напісаў шэраг надзвычай цікавых прыпавесьцяў (ці ня сам творца прыдумаў гэты незвычайны жанар), якія з густам выдадзеныя ў бібліятэцы "Вострая Брама" выдавецтвам "Наша Ніва". Прыпавесьці пад агульнай назвай "Пахаджане" былі надрукаваныя ў адной зь віленскіх друкарняў.

А другая кніга дае глыбокае ўяўленьне пра гуманітарную сытуацыю ў Польшчы, як сёньняшнюю, так і зь нядаўняга мінулага. У ёй вы знойдзеце рэфлексіі польскіх інтэлектуалаў, такіх як нобэлеўскі ляўрэат Чэслаў Мілаш або беларускі пісьменьнік Сакрат Яновіч.

Не залішнім будзе прыгадаць, што кнігі даволі танна каштуюць па нашым часе.




Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА
«КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 17. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 25.10.2001 г. а 17.05.